


Беларускі
ПЭН
Цэнтр

# Культурны супрацiў у Беларусi

выпуск 19 (32)
18 траўня 2021

*«У траўні мы ўсе – радыё постпамяці. Рэха таго, што здарылася не з намі», – кажа Максім Жбанкоў у новым выпуску перадачы «Шокінг Культ». Але кожны дзень нам адгукаецца і памяццю таго, што здарылася з намі: часам шэптам, але часцей – грукатам і звонам.*


1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА

2. СІМВОЛІКА

3. ЖЫЦЦЁ ЗА КРАТАМІ

4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ

5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ

6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

7. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ


**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА



**Аляксея Санчука, музыку, асудзілі да 6 гадоў зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.**





**Марыі Калеснікавай і Максіму Знаку выставілі канчатковае абвінавачанне па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса: Заклікі да дзеянняў супраць нацыянальнай бяспекі, Змова з мэтай захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам, Стварэнне экстрэмісцкага фармавання і кіраўніцтва ім. Ім пагражае да 12 гадоў зняволення.**





**Таня Капітонава, фатографка і відэааператарка, была затрыманая 13 красавіка за нібыта ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве – 12 красавіка група жанчын у белым паклалі кветкі каля Камароўскага рынку, Таня рабіла здымкі. Яе пакаралі 10 суткамі адміністратыўнага арышту.**





**Адам Бяляцкі выйшаў да станцыі метро Каменная горка ў Мінску з плакатам у падтырмку палітзняволеных журналістак Дар'і Чульцовай і Кацярыны Андрэевай, а таксама шматдзетнай маці Вольгі Залатар. Яго затрымалі і пакаралі 15-суткавым арыштам.**





**Анжаліцы Борыс, палітзняволенай старшыні «Саюза палякаў Беларусі», працягнулі тэрмін утрымання пад вартай на пяць месяцаў.**

**Эканамічны суд 12 траўня пастанавіў ліквідаваць культурніцкую пляцоўку «Цэнтр гарадскога жыцця». Фармальнай падставай стала карціна мастака Алеся Пушкіна, выстаўленая там у сакавіку, якая, па версіі ўладаў, парушае закон «Аб супрацьдзеянні экстрэмізму».**






**Мікола Таранда, выкладчык, грамадскі актывіст, адзін з заснавальнікаў і кіраўнік гістарычна-культурнага клубу «Паходня», які займаўся захаваннем беларускіх традыцый і пашырэннем ведаў пра іх, звольнены з Гродненскага аграрнага ўніверсітэта.**

**Новым дырэктарам Нацыянальнага акадэмічнага тэатру оперы і балету прызначаны Вячаслаў Гарбузаў. З 2017-га ён кіраваў тэатрам драмы ў Брэсце. На мінулай працы ён, напрыклад, запомніўся загадам набываць туалетную паперу і мыла для тэатру за кошт працаўнікоў.**






**На стэле, што на ўездзе ў горад Бяроза, намалявалі чырвоную паласу. Газета раённага выканкама назвала гэта праявай неанацызму.**

**Лукашэнка падпісаў закон «Аб недапушчэнні рэабілітацыі нацызму», які праваабаронцы называюць «інструментам расправы з іншадумцамі». Закон устанаўлівае забарону на гераізацыю і апраўданне нацысцкай ідэалогіі і садзейнічанне гэтаму ў любой форме. Таксама пашыраны змест тэрміну «нацысцкая сімволіка і атрыбутыка».**

# 2. СІМВОЛІКА



**Анастасія Перавошчыкава** 9 траўня вызваленая пасля 105 дзён адміністратыўнага арышту. Гэта рэкордны для Беларусі адміністратыўны тэрмін, і Анастасія атрымала яго за сімволіку.



За фота са сцягам **Ірына Сурыгіна**, маці траіх непаўнагадовых дзяцей, якіх яна ўтрымлівае адна, атрымала штраф у 5220 рублёў, а яе сям'я – статус сацыяльна-небяспечнай.

**Адама Шпакоўскага**, якога затрымалі 21 красавіка, бо суседзі паскардзіліся, што ён размаўляе па-беларуску, і пакаралі 15-суткавым арыштам, асудзілі яшчэ на 12 сутак за «публічную дэманстрацыю, выраб, распаўсюд нацысцкай сымволікі ці атрыбутыкі».



**Кампанію з сямі чалавек** затрымалі 11 траўня на Мінскім моры, дзе яны адпачывалі з бел-чырвона-белым сцягам. Ім прысудзілі ад 5 да 15 сутак адміністратыўнага арышту.

Не менш за **дзевяць чалавек** пачынаючы са жніўня ў Брэсцкай вобласці былі пакараныя за «знявагу дзяржаўнага сцяга» на тэрміны ад 6 месяцаў «мер выхаваўчага характару» для непаўналетняга да 1 года «хіміі». Яшчэ дзве новыя справы дасланыя на разгляд судом, «злачынства» заключалася ў тым, што людзі сарвалі афіцыйны сцяг з флагштока.

**Дзмітры Таратун** атрымаў 3 гады абмежавання волі, а **Дзіяна Казак** – паўтара года хатняй «хіміі» за тое, што ў пачатку лютага 2021 года яны нанеслі на фасад будынка трансафрматарнай будкі малюнак – сардэчка, кулак і вікторыю.

**Адзінаццацікласнікам у Ганцавічах** забаранілі прыходзіць на выпускны ў стужках белага і чырвонага колераў.

Затрымалі за белую гумку на руцэ, прысудзілі 20 сутак за маску з «няправільным малюнкам», адміністратыўны арышт за сцяг і фатасесію ў лесе, за ружовы тапак з белай паласой, штраф за сцяг у машыне.

# 3. ЖЫЦЦЁ ЗА КРАТАМІ




**Алесь Пушкін, мастак, які падазраецца па ч.3 арт. 130 КК (распальванне варажнечы), у зняволенні заснаваў арт-суполку «Турма». У сваім лісце ён паведаміў, што новая арт-суполка створана для тых мастакоў, хто:**
**1) Сядзеў 2) Жыве альбо зрабіў свядомы выбар вярнуцца з эміграцыі ў Беларусь 3) Размаўляе на беларускай мове.**

**Аляксандр Фядута шмат чытае і адукуе сукамернікаў.**



**Зміцер Дашкевіч, актывіст, былы палітвязень, пісьменнік, які адсядзеў 20 сутак за варту ў Курапатах, распавёў пра ўмовы ўтрымання для палітычных:**
***«У іх забралі матрацы, пасцельную бялізну, кнігі, асадкі, лісты забаранілі пісаць. Піць трошкі дазваляюць, нейкія перадачы, трошкі бялізны, зубной пасты, шчоткі».***

**Кася Будзько, зняволеная па студэнцкай справе, цяпер мае свой інстаграм акаўнт, які стварылі для яе сябры. У адным з лістоў яна піша:**
***«Останусь ли я человеком после зоны, сколько мне понадобится времени для восстановления, адаптации и рефлексии, ну и пройдёт ли наша дружба это испытание...»***



# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ



Андрэй Ціцяк
**«ЖЭСтачайшая цэнзура»**



Вікторыя Семыкіна





Вольга Якубоўская

**Малюнак**
**Анастасіі Перавошчыкавай**
**з-за затаў**




**Артыстка AnaMova і журналістка Vera May выпусцілі падкаст да паўгода з гібелі Рамана Бандарэнкі. У падкасце яны распавядаюць, што адбылося ў двары на Чарвякова на больш глыбінным узроўні.**

**Мая жыве ў Магілёве і робіць лялькі – прататыпы вядомых людзей у тым ліку. Гэта пачалося пасля лета 2020 як спосаб знайсці творчы выхад моцным перажываанням, а таксама як спосаб зарабіць грошы: Маін муж звольніўся падчас забастоўкі ў кастрычніку, а сям'я выхоўвае дзіця з аўтызмам, і за актыўную пазіццыю іх пазбавілі нават дапамогі, што выплочваецца сем'ям, дзе выхоўваюцца дзеці з інваліднасцю.**





**Артысты Перамогі: 15 траўня канцэрт Сяргея Башлыкевіча пад назвай «Дзе той адказ?»**

# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**Зварот Паўла Севярынца**
**перад пачаткам суда 12 траўня. Суд закрыты.**
***«Бог абудзіў Беларусь не для таго, каб яна зноў заснула. Размаўляй па-беларуску, чытай і ведай сваю гісторыю».***



**Уладзімір Някляеў, паэт, пісьменнік, палітык, пра Святлану Ціханоўскую як лідарку:**
***«Час паказвае, што яна не так і выпадкова аказалася на месцы, які выбраў лёс, бо тая хуткасць, з якой яна набірае ўпэўненасць, досвед палітычны – гэта ўражвае, яна малайчына».***

**Тры беларускія музыкі – Руся, Наста Шпакоўская і Маргарыта Ляўчук – жывуць па-за межамі Беларусі ўжо больш за паўгода, яны расказалі, чаму эміґравалі, чым жывуць і як уяўляюць той дзень, калі вернуцца ў Беларусь.**



**Маргарыта Ляўчук, оперная спявачка:**
***«Дзякуй Літве за тое, што мы жывём нармальным жыццём. Тут у нас поўная свабода, рабі што хочаш. Мы можам казаць праўду, пець праўду, пасціць што заўгодна і не баяцца, што за намі прыйдуць і забяруць на Акрэсціна».***



**Руся (Марына Шукюрава), вакалістка беларускага гурта Shuma:**
***«Што я магу зараз рабіць? Натхняць людзей, карыстацца сваімі медыямагчымасцямі, распавядаць пра тое, што адбываецца ў Беларусі. За гэтыя паўгода мы ўжо знялі некалькі дакументальных фільмаў пра сітуацыю ў Беларусі, у прыватнасці пра беларускіх жанчын, разам з Сяргеем Будкіным запусцілі Фонд культурнай салідарнасці, з эстонскімі калегамі — фонд Frida Bel, прысвечаны выключна жаночай тэме. А таксама зрабілі некалькі калабарацый з кіеўскімі артыстамі на студыі Івана Дорна».***



**Наста Шпакоўская, лідарка гурта Naka і былая актрыса Горкаўскага тэатра:**
***«Галоўная мэта школы [анлайнавай школы для беларускіх дзяцей ва Украіне] – дадаць да ўкраінскай школьнай праграмы прадметы беларускага напрамку: беларуская мова, літаратура і гісторыя Беларусі. Наша школа выдае атэстат дзяржаўнага ўзору, такім чынам, нашы дзеці, нягледзячы на «вайну» дарослых, працягваюць вучыцца беларускай мове і атрымліваць адукацыю».***

# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ



**Андрэй Маісееў, фатограф з Масквы, зрабіў фотапраект. Ён каментуе яго так:**
***«Все то, что происходит за ближайшей границей – шок для меня. Я представить не мог, что Человек способен так легко и с неподдельным желанием опуститься на пару ступеней в развитии. До крайне скотского состояния. Животные так себя не ведут, как позволяет себе поступать существо, способное на самоанализ, критику и совесть».***




**Беларусы Бразіліі адкрылі збор сродкаў на арганізацыю фотавыставы аб падзеях у Беларусі. На першым плане — роля жанчын у пратэстах.**




**Адзін з перадавых тэатраў Таліна Vaba Lava 31 траўня пакажа спектакль «Error 403» пра трагедыю 10 жніўня 2020 года ў Мінску, калі быў забіты Аляксандр Тарайкоўскі.**

# 7. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**У траўні 3 чалавекі, якія так ці інакш уключаныя ў працэс культурнага развіцця нашай краіны, будуць спраўляць свой дзень народзінаў за кратамі.**
**Гэта дызайнер і архітэктар Расціслаў Стэфановіч (12 траўня), блогер Павел Спірын (20 траўня), студэнтка і мастачка Кася Будзько (25 траўня).**

**Адрас для лістоў:**
**Кася Будзько і Расціслаў Стэфановіч: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2**
**Павел Спірын: ПК №2. 213800, г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1**

